# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (583) ГОД XII 30 КРАСАВІКА 1967 г. ЦАНА 60 гр.





*НЯХАЙ ЖЫВЕ І МАЦНЕЕ БРАТЭРСКАЯ ДРУЖБА НАРОДАЎ ПОЛЬШЧЫ І СССР!*

## БГКТ

### ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Як мы ўжо інфармавалі, 16 красавіка адбыўся пленум ГП, які абмеркаваў ролю і месца БГКТ у рэалізацыі пастановы № 62 Прэзідыума ВРН у Беластоку (пастанова надрукавана ў 14 (579) нумары «Нівы»). Накрэслівае яна напрамкі дзейнасці паасобных органаў дзяржаўнай адміністрацыі ў справе дапамогі насельніцтву нацыянальных меншасцей.

Даклад прачытаў сакратар ГП Уладзімір Юзвюк.

Дыскусія пасля даклада сканцэнтравалася ў асноўным на дзвюх дзялянках. Многія дыскутанты гаварылі аб недахопе падручнікаў для навучання беларускай мовы, крытыкавалі той факт, што вельмі памалу яны прадукуюцца, што настаўнік беларускай мовы сустракаецца ў сваёй працы з аграмаднымі цяжкасцямі, а гэтыя цяжкасці ў сваю чаргу з'яўляюцца прычынаю нізкага ўзроўню навучання ў паасобных школах і памяншэння колькасці жадаючых вывучаць родную мову.

Звярталі таксама ўвагу на тое, што неабходна ў Беластоку стварыць філіял кафедры беларускай мовы і літаратуры Варшаўскага ўніверсітэта, на якім нашыя настаўнікі пашыралі б свае веды.

Уладзімір Антанюк гаварыў аб недахопе беларускіх кніжак. Прызначаныя 16 злотых у год на аднаго вучня на пакупку патрэбнай літаратуры — гэта зусім мала. Там, дзе навучаецца беларуская мова, ёсць патрэба, каб асветныя ўлады прызначылі на кніжкі яшчэ па 16 злотых. Уладзімір Антанюк звяртаў таксама ўвагу на неабходнасць навучання на высокім узроўні польскай мовы, а таксама аргументаваў патрэбу, каб Педагагічнага ліцэя ў Бельску Падляшскім не ліквідавалі яшчэ некалькі гадоў, таму што ён у асноўным забяспечвае настаўніцкімі кадрамі беларускае асяроддзе (згодна з пастановаю Міністра асветы, педагагічныя ліцэі ліквідуюцца, а будуць існаваць толькі настаўніцкія студыі).

У справе цяжкасці навучання беларускай мовы выступалі: Мікола Лебядзінскі, Анатоль Мартыновіч, Віктар Швед і прадстаўнік Кураторыі Беластоцкай асветнай акругі Ян Канапелька.

Другой групай пытанняў, якія абмяркоўвалі ўдзельнікі пленума, былі культурныя справы.

Мікола Матэйчук гаварыў аб не заўсёды правільнай расстаноўцы кадраў, якія могуць весці мастацкія калектывы ў дамах культуры і ў паасобных вёсках. Напрыклад, у Гарадку пры доме культуры развіваўся

(Працяг на стар. 2)

# У ПЕРШАМАЙСКІМ ПАХОДЗЕ

**Надышоў чарговы Першамай. Спавітая ў вясенняй зелені прырода падмалёўвае ўрачыстае свята працоўных. Чырвань першамайскіх сцягоў і транпарэнтаў наводзіць аптымістычныя думкі працоўнага чалавека.**

**Іменна гэты святочны дзень дае нам аказію да супастаўлення нас у Народнай Польшчы з намі ў міжваенны перыяд, дае нам аказію параўнання нас з іншымі краінамі. А ёсць чым радавацца, і гэта не толькі ў горадзе, прадпрыемстве, але і на вёсцы. Павялічваецца з года ў год ураджай, што з'яўляецца вынікам пастаянных клопатаў партыі і ўрада аб сельскай гаспадарцы. Каб параўнаць мінулы год з гэтым, хопіць глянуць на палі і ўсведаміць, як пабольшылася колькасць трактараў і сельскагаспадарчых машын — багацце нашай вёскі. Не меншыя дасягненні адзначаюцца і ў галіне асветы і культуры. Вучацца дзеці ў новай школе ў Нурцы, Бельскага павета, у Дабрыводзе, Гайнаўскага павета, радуюцца людзі Нараўкі з новаадкрытага цэнтра культуры, поўным крокам ідзе ў вёску тэлевізія. Калі мова аб культуры, дык неабходна ўспомніць, што развіваецца нашая, нацыянальная, беларуская культура. Многія першамайскія вечары і ўрачыстасці ўпрыгожаць выступленні самадзейных беларускіх калектываў у Бельску, Гайнаўцы і ў Гарадку, памінаючы драматычныя гурткі, пакольні цяжка было б іх пералічыць.**

**Яшчэ больш урачысты характар сёлеташняга Першамая вынікае з таго, што адбываецца ён у юбілейным годзе савецкай улады — 50-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Ізноў дарагі грамадзянін, чытаючы майскі лозунг аб вялікім юбілею, кранаешся да адлеглых год Расіі. Пачнеш супастаўляць сучасныя дасягненні СССР з нязвыклай адсталасцю і пастаяннымі атакамі з боку буржуазных урадаў 50 год таму назад. Ва ўспамінах не забудзеш аб тым, што Савецкі Саюз зараз з'яўляецца магутнай сусветнай краінай, міма двух знішчаючых войнаў, пасля якіх трэба было пачынаць будаваць нанава. І табе прыдзе на думку адно сцвярджанне: усё гэта з'яўляецца вынікам перавагі сацыялістычнага лагера над капіталізмам.**

**Калі пачнеш углыбляцца думкамі ў светлую будучыню, глядзячы як у Першамайскім паходзе ідзе маладосць, раптам думкі насцярожацца. Іншы лозунг прыпомніць табе невялікую краіну ў Азіі — В'етнам. Там сёння гінуць людзі толькі за тое, што хочуць незалежнасці сваёй краіны. Іх барацьба слушная, і ў гэты Першамайскі дзень ты і мы ўсе, як ніколі, строга асуджаем амерыканскі імперыялізм за агрэсію, за сцярвятніцкія налёты на Дэмакратычную Рэспубліку В'етнам. Мы з вамі, сёстры і браты з В'етнама!**

**Ізноў нашыя думкі ў Польшчы, у Еўропе. Глядзіш на моладзь загарэлую вясеннім сонцам і табе здаецца, каб быў толькі мір. Так думаюць усе людзі добрай волі. Але ў Еўропе, у ФРГ ёсць сілы, якія не хочуць міру. Яны змагаюцца за змену граніц, выступаюць супраць падпісання дагавору аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі, імкнуцца самі яе мець на ўзбраенне. Аднак рознага тыпу манеўры ў форме «збліжэння да Усходу» не «замыляць» вачэй сацыялістычным краінам. Як адказ на рэвізіяніцкія «штучкі» ўрада Кізінгера былі ў апошні час падпісаныя дагаворы аб дружбе і супрацоўніцтве між Польшчай, ГДР, Чэхаславакіяй і Балгарыяй. Прычыняюцца яны да ўмацавання міру і бяспекі ў Еўропе і расстройваюць планы бонскіх рэваншыстаў. Такая разнастайнасць думак сёння ў кожнага працоўнага грамадзяніна Польшчы.**

# ПАТРЭБЕН ЧАЛАВЕКУ ЧАЛАВЕК

Заўжды хто-небудзь некага чакае,
Заўжды хто-небудзь некага шукае —
Патрэбен чалавеку чалавек,
Што прыйдзе у бядзе на дапамогу,
Што пракладзе надзейную дарогу
Над кручамі і над вірамі рэк,

Што стане часткай сэрца і сумлення,
Што прыйдзе, як высокае натхненне,
І цеплыню і ласку прынясе.
І я яму аддам усё дазванне:
Агонь душы, любоў і хваляванне,
І радасці, і клопаты усе.

Хай свята дружбы лепшым будзе святам,
Хай векам дружбы наш завецца век,
Хай другу друг заўсёды будзе братам,
І другам — чалавеку чалавек.

*Сяргей Грахоўскі*

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### СМЕРЦЬ УЛ. КАМАРОВА

Дайшла да нас трагічная звестка, што лётчык-касманаўт **Уладзімір Камароў** загінуў у часе пасадкі касмічнага карабля «Саюз-1». «Саюз 1», якім кіраваў палкоўнік Ул. Камароў, быў запушчан на арбіту ў нядзелю раніцай. Карабель з касманаўтам, выканаўшы ўсе заданні, пачаў вяртацца на Зямлю. Прабыў ён самыя цяжкія хвіліны тармажэння ў густых слаях атмасферы. Аднак калі касмічны карабель знаходзіўся на 7 кіламетраў ад Зямлі, пры раскрыцці парашута, паводле ўступных дадзеных, ліны запуталіся і карабель упаў з вялікай хуткасцю, што і было прычынай смерці Камарова. «Саюз 1» з'яўляецца новым касмічным караблём. Быў гэта другі касмічны палёт савецкага касманаўта. У 1964 г. камандаваў ён караблём «Узыход І».

### З'ЕЗД САПГ

Закончыў сваю працу VII з'езд Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі. Дэлегаты поўнасцю адобрылі асноўныя рэфераты з'езда, якія гавораць аб далейшых планах пабудовы сацыялістычнага грамадства ва Усходняй Германіі. Заходнегерманскія каментатары шырока адзначаюць выступленні Уладзіслава Гамулкі, які на з'ездзе поўнасцю салідарызаваўся з палітыкай ГДР у справе палітыкі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.

### ЕЎРАПЕЙСКАЯ НАРАДА

У **Карлёвых Варах** у Чэхаславакіі ў панядзелак адкрылася нарада камуністычных і рабочых партый з еўрапейскіх краін. Нарада мае пракансультаваць формы барацьбы камуністычных і рабочых партый за бяспеку ў Еўропе і іншыя справы камуністычнага руху.

### У ГРЭЦЫІ

Палітычны крызіс у Грэцыі фактычна працягваецца амаль два гады, але ў найбольш вострай форме выступіў зараз. Ультраправыя кругі на чале з каралём Грэцыі і пры дапамозе амерыканскай разведкі ў мінулым тыдні пастанавілі ўвесці ваенную дыктатуру. Уладу ў Грэцыі захапіла армія, а дакладней — камандванне арміяй. Многія канстытуцыйныя пастановы прыпынены. Сувязь Грэцыі са светам закрыта, а інфармацыі паходзяць выключна з цэнтральнай **ваеннай** радыёстанцыі. Ваенныя арыштавалі прэм'ера, а таксама Папандрэу — лідэра партыі, якая мае ў парламенце 171 дэпутата. Трэба дадаць, што Папандрэу да паловы ліпеня 1965 года быў шэфам грэчаскага ўрада, які меў 300-мандатную большасць у парламенце г. зн. 2/3, і міма таго кароль Канстанцін падаў гэты ўрад у адстаўку.

### ТЭРЫТОРЫЯ І НАСЕЛЬНІЦТВА

Сацыялістычная сістэма — дзе апрача СССР уваходзіла Манголія — перад другой сусветнай вайной займала 17% тэрыторыі зямнога шара і налічвала 9% насельніцтва. **Зараз сацыялістычныя краіны займаюць каля 26% тэрыторыі і больш 35% насельніцтва нашай планеты.** А. К.

## БССР

### ЗАКЛІКІ

Беларускія газеты апублікавалі поўны тэкст першамайскіх заклікаў ЦК КПСС. У адным з заклікаў гаворыцца:

«Працоўныя Савецкага Саюза! Павышайце прадукцыйнасць працы! Дабівайцеся эканамічнага выдаткавання матэрыяльных рэсурсаў і дзяржаўных сродкаў! Зніжайце сабекошт, паляпшайце якасць прадукцыі!»

### ПЕРАДРУК

Цэнтральныя беларускія газеты перадрукавалі артыкул карэспандэнтаў маскоўскай «Правды» — **Вузлы ўрадлівасці. Чаму ў Беларусі нізкая эфектыўнасць мясцовых угнаенняў.**

Рэч аб прымітыўнасці ў беларускай сельскай гаспадарцы. Аўтары артыкула, між іншым, сцвярджаюць: — Праблемы развіцця сельскай гаспадаркі Беларусі ў юбілейным годзе абмяркоўваліся на рэспубліканскай навукова-вытворчай канферэнцыі, якая праходзіла нядаўна. Там гаварылі аб павышэнні культуры земляробства. Аднак самае важнае ў гэтай справе — механізацыя прыгатавання і ўнясення ўгнаенняў — было абыдзена маўчаннем».

### ПРАТАКОЛ

У Брэсце адбылася нарада прадстаўнікоў Люблінскага ваяводства, Валынскай вобласці Украінскай Рэспублікі і Брэсцкай вобласці Беларускай Рэспублікі. У выніку нарады падпісана пратакол пагранічных дружалюбных сувязей на гэты год. М. ін. намечана сумесна правесці навукова-тэарэтычную канферэнцыю, прысвечаную 50-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі.

### РЫЛЬКО

Трагічна загінуў беларускі пісьменнік Алесь Рылько. Яму было сорак чатыры гады.

### ДРЭННА

Усё яшчэ вельмі дрэнна стаіць справа з перакладамі на беларускую мову літаратуры іншых народаў. — «Ёсць шмат прычын, якія затрымліваюць з'яўленне перакладаў у нашай рэспубліцы. Але галоўная і асноўная сярод іх — адсутнасць кваліфікаваных кадраў перакладчыкаў. Іх практычна ніхто ў нас не рыхтуе, вопыт нашых лепшых перакладчыкаў нікому не перадаецца», — піша Н. Лапідус, кандыдат філалагічных навук, у сваім артыкуле, змешчаным на старонках «Літаратуры і Мастацтва».

### УПЕРШЫНЮ

Нэвіл Дзілкс, англійскі дырыжор з Натынгема выступіў з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР. Канцэрт адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Англійскі дырыжор іграў твор беларускага аўтара — другую сімфонію Я. Глебава. Гэта першы выпадак, калі выкананнем беларускага твора кіраваў замежны дырыжор.

### ВЫСТАЎКА

У Гродна адбылася абласная выстаўка народнай творчасці, на якой прадстаўлена больш чатырыста прац аматараў-скульптараў, рэзчыкаў па дрэве, ткачоў і мастакоў. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### РАТЫФІКАЦЫІ

22.IV. на пасяджэнні Рады Дзяржавы ратыфікавана: Дагавор аб дружбе паміж Польшчай і Чэхаславакіяй, Дагавор аб дружбе паміж Польшчай і Дэмакратычнай Рэспублікай Германіі, Дагавор аб культурным супрацоўніцтве паміж Польшчай і Афганістанам, паправку да 109 артыкула Карты Аб'яднаных Нацый.

### РАСКЛАД

Новы расклад камунікацыйных спалучэнняў, які ўведзены будзе ад 28 мая, прынясе пэўныя паляпшэнні ў спалучэннях. Лепш будуць сынхранізаваны аўтобусы з цягнікамі, а таксама пабольшыцца колькасць цягнікоў у міжнародных спалучэннях.

### ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

Ва ўсёй краіне электрыфікавана ўжо 80 працэнтаў гаспадарак, ёсць аднак ваяводствы, у якіх электрыфікацыя вёскі набліжаецца да канца. У сувязі з тым штораз большага значэння набірае выкарыстанне электрычнай энергіі ў працах непасрэдна звязаных з сельскагаспадарчай прадукцыяй. Справамі гэтымі займаецца ад некалькіх месяцаў спецыяльна пакліканая ўрадам камісія. Апрацоўвае яна комплексны план прац у гэтай галіне. Першапланавай працай будзе перабудова вясковых электраліній так, каб дастаўляемая імі энергія магла быць выкарыстана да рознага роду электраматораў.

### ЗЛАЧЫНСТВЫ

Выйшла кніжка пад загалоўкам: «Гітлераўскія злачынствы ў Польшчы». У кніжцы знаходзяцца фотакопіі важнейшых матэрыялаў, дакументаў, а таксама здымкі ілюструючыя злачынствы акупанта ў Польшчы.

### СЦІРАЛЬНЫЯ МАШЫНЫ

На агульную колькасць 420 тысяч сціральных машын проданых у мінулым годзе, 171 тысяч купіла вёска. Значна меншым поспехам на вёсцы цешацца халадзільнікі, а нават швейныя машыны. На адну швейную машыну купленую на вёсцы прыпадае 3—4 купляных у горадзе, а на адзін халадзільнік у вёсцы прыпадае 15 халадзільнікаў гарадскіх.

### НАВУКА

Плануецца, што ў 1967/68 навучальным годзе сядзе за школьныя парты. каб здабыць пачатковую адукацыю, 200 тысяч працаўнікоў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, дарожнай і лясной службы.

### АДЗЕЯЛА НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

Такім трывалым прыкрыццём маюць быць стылонавыя адзеялы з анілонавай укладкай выпрадукаваныя (пакуль што ў колькасці 200 штук) праз Лодзінскае прадпрыемства прадукцыі адзеялаў. Новае адзеяла можна сціраць, сохне яно на працягу некалькіх гадзін. Хаця вельмі лёгкае (важыць усяго 2 кілаграмы) і тонкае (2 см таўшчыны), ахоўвае перад холадам лепш ад традыцыйнага бавоўнянага адзеяла. Каштаваць адно адзеяла будзе каля 1000 злотых.

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ГП БГКТ

**(Працяг са стар. 1)**

аматарскі рух, але не было там беларускага рэпертуару да таго часу, пакуль не прыйшоў новы кіраўнік і не зацікавіўся беларускім рэпертуарам.

У паасобных школах, гаварыў далей Мікола Матэйчук, ёсць па некалькі настаўнікаў, а ў некаторых аніводнага, якія маглі б кіраваць драмгуртком ці харавым калектывам. Таму пажаданым было б, каб размяшчэнне настаўніцкіх кадраў было больш карыснейшым для аматарскага руху.

У сувязі з тым, што няма ў нас кваліфікаваных кадраў, якія кіравалі б мастацкім рухам, ёсць патрэба высылаць у БССР на вучобу або на курсы людзей, якія там атрымалі б патрэбныя веды.

— Калі не мае на гэта грошай міністэрства, — гаварыў Мікола Сычэўскі, — дык можна было б адказацца хаця б ад аднаго курсу па беларускай мове, які падчас канікул кожны год адбываецца ў Мінску.

У пастанове № 62 ВРН паддаюцца пад развагу магчымасці арганізавання Дзяржаўнага эстраднага калектыву з беларускім рэпертуарам. У гэтай справе члены ГП выказалі свае меркаванні, якія зводзяцца да наступнага: калі гэта мае стацца, дык павінна тут быць цеснае супрацоўніцтва з БГКТ адносна рэпертуару і выкарыстання ўспомненага эстраднага калектыву.

Удзельнікі пленума закранулі праблему беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Выказвалася многімі такая думка, што цесны і нявыгадны музей БГКТ (пакуль пабудуецца спецыяльны будынак), трэба перанесці ў памяшканне па Дзяржаўным музеі прыродніцка-лясным, які будзе перанесены ў новапабудаванае памяшканне. Анатоль Храноўскі прапанаваў, каб усе гурткі БГКТ не толькі збіралі экспанаты, але таксама пераказвалі грошы на камітэт пабудовы музея БГКТ.

У канцы пленума выступіў з прамоваю прадстаўнік унутраных спраў ВРН — Мікола Куц. Па яго прапанове пленум паклікаў камісію, якая сабярэ і апрацуе ўсе пастулаты і прапановы ўдзельнікаў пленума.

Пленум заслухаў таксама інфармацыю Ул. Юзвюка аб выкананні плана працы ГП за 1966 год.

Вёў пленум старшыня ГП Вінцук Склубоўскі. У дыскусіі, апрача ўспомненых асоб, выступілі: Аляксандр Баршчэўскі, Піліп Кізевіч, Васіль Дзун, Лідзія Бялецкая, Міхась Хмялеўскі, Мікола Серадзінскі, Мікола Лобач, Аляксандр Іванюк, Янка Палоцкі і М. Краўчук.

**М. Хмялеўскі**




**Niedziela, 30 kwietnia**

8.30 Politechnika; 9.35 Film krótkometrażowy; 9.50 Politechnika TV; 10.25 „Śladami kapitana Coocka" — film (odc. V — ostatni); 11.15 Film fabularny; 12.30 Dziennik; 12.40 Koncert; 13.25 „W starym kinie"; 14.25 PKF; 14.35 „Przemiany"; 15.00 Dla dzieci: A. A. Milne: „Strofy na cześć Misia o Bardzo Małym Rozumku"; 15.30 „Zagłada eskadry" — film fab. radz.; 17.40 „Ludzie i Zdarzenia"; 18.00 „Estrada literacka": „Niech się zbudzi drwal" Pabla Nerudy; 18.40 „Słownik Wyrazów Obcych"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.00 Teatr Rozrywki: „Świeca zgasła" T. Kwiatkowskiego; 20.50 „Lunatyk" — film fab. fr.; 22.15 „Niedziela sportowa".

**Poniedziałek, 1 maja**

7.40 Międzynarodowy reportaż 1-Majowy; 13.00 „Bawcie się z nami" — występy zespołów CRZZ; 13.30 „Ostatni Robin Hood" — film fab. fr.; 15.00 Dla dzieci: K. I. Gałczyński — „Młynek do kawy"; 15.50 „Studio Uno" — telewizyjny program rozrywkowy wł.; 16.45 Teatr TV: „Śmierć na gruszy"; 17.50 „Eureka"; 18.45 Kino Krótkich Filmów; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.15 „Piosenki Polskich Nagrań" — program rozrywkowy; 21.05 „Dwaj muszkieterowie" — film fab. CSRS; 22.30 Wiadomości sportowe.

**Wtorek, 2 maja**

9.55 Dla szkół (kl. IX) Język polski. J. Ursyn Niemcewicz: „Powrót posła"; 10.30 „Żółtodzioby" — film fab. ang.; 12.30 „Przysposobienie Rolnicze: „Jakie wybrać odmiany"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Dziennik; 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.20 Dla dzieci: „Witaj boćku"; 17.40 Telekram; 17.50 „Sylwetki X Muzy" — Aleksander Fogiel; 18.20 „Wiem wszystko" — teleturniej 18.50 „Na morskich szlakach"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Córeczka" — film tv pol.; 20.45 „Żółtodzioby" — film fab. ang.; 21.50 „Klaps"; 22.20 Dziennik; 22.40 Politechnika TV.

**Środa, 3 maja**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie. „Jak pracuje Rada Narodowa"; 10.30 „Ucieczka" — film tv („Święty"); 15.45 „Zastosowanie herbicydów w sadach"; 16.00 Sprawozdanie sportowe; W przerwie, ok. 16.45 — PKF; 17.45 Dziennik; 17.50 „Nie tylko dla pań"; 18.15 „Pod znakiem jakości"; 18.40 „Gawędy muzyczne"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.00 „Czy można zapomnieć" — film jugosł.; 20.15 „Święty"; 21.05 „Światowid"; 21.35 „Prometeusz" — film baletowy węg.; 21.55 Wszechnica TV; 22.25 Dziennik.

**Czwartek, 4 maja**

11.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski, L. Kruczkowski — „Kordian i Cham" („Dzieje dramatu"); 16.15 Kurs Rolniczy: „Ochrona roślin okopowych"; 16.45 „Łyżeczka" — film fr.; 16.55 Dziennik; 17.00 „Kino Ptyś"; 17.15 „Czy umiesz mówić po polsku"; 17.30 „Na zdrowie"; 17.55 „To, co najlepsze"; 18.25 Kabaret „Nietoperz" z Radomska; 19.05 „Szlakiem Zwycięstwa" — reportaż filmowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr „Kobra": „Gasnący płomień" Patricka Hamiltona; 21.15 „Refleksje"; 21.45 Dziennik; 22.00 Magazyn Medyczny.

**Piątek, 5 maja**

10.10 „Mrok za dnia" — film fab. węg.; 12.00 Dla szkół (kl. IV) „Na Grunwaldzkim Polu"; 12.45 Dla szkół (kl. I) „Mieszkamy w Polsce"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Miś z okienka"; 17.15 „Przygody Robinsona Cruzoe" — film; 17.40 „Azymut"; 18.05 „Zamki węgierskie" — film węg.; 18.25 „Wielokropek"; 18.45 Wszechnica TV; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.00 Telewizyjny Kurier Mazowiecki; 20.15 Teatr TV: „Jutro Berlin". Po teatrze, ok. 21.25 „10 minut recenzji"; 21.35 „O sztuce przegrywania"; 22.05 Dziennik.

**Sobota, 6 maja**

9.55 Dla szkół (kl. VI) Biologia „Rośliny żywią, ubierają, leczą"; 10.30 „Proces przeciwko miastu" — film fab. wł.; 16.10 Program Tygodnia; 16.30 Dla nauczycieli: „Motywy altruistyczne"; 16.55 Dziennik; 17.00 „Dla każdego coś miłego"; 17.45 „Spotkania z przyrodą"; 18.10 „Tele-Echo"; 18.55 Ciekawe opowieści lotników; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.05 „Pegaz"; 20.50 „Złoty wiek komedii" — program filmowy USA; 21.40 Dziennik; 21.55 Wiadomości sportowe; 22.05 „Proces przeciwko miastu" — film fab. wł.




**28 kwietnia, piątek**

8.00 „Hamlet". Film; 14.45 Program; 14.50 „Kolory"; 15.30 Dla dzieci; 15.50 Film rysunkowy; 16.00 Sztafeta nowin; 17.00 Piłka nożna: „Dynamo" (M) — „Torpedo" (M); 18.45 „Niezwykła klasa". Film; 20.00 Almanach muzyczny.

**29 kwietnia, sobota**

11.15 Program; 11.20 Dla przedszkolaków; 12.00 „Załoga „RIF" (Kaliningrad); 12.40 „Razem". Moskiewski Teatr Młodzieżowy; 14.00 Koncert uczniów m. Mińska; 14.50 „Z historii fabryk" (Fabryka budowy maszyn w Bobrujsku); 15.20 Muzyka; 15.30 „Panorama białoruska"; 16.00 Reportaż z otwarcia ogólnoświatowej wystawy w Montrealu; 16.20 Klub filmowy; 17.30 „Ogoniok"; 18.40 Dziennik; 19.00 Przegląd filmowy; 20.00 Przegląd międzynarodowy; 20.20 „Spotkania teatralne".

**30 kwietnia, niedziela**

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Dla uczniów; 9.30 „Ciekawe dla wszystkich"; 10.10 Koncert dla żołnierzy; 10.50 „Mówią ulice" (m. Mohylów); 11.30 Szkatułka muzyczna; 11.50 Program poświęcony działaniom bojowym 105 pułku lotniczego; 12.30 Prog. film. satyr.; 13.15 Kiosk muzyczny; 13.50 „Leonid Jengibarow — zapoznajcie się". Film dokumentalny; 14.20 „Turniej ciekawych"; 15.00 Panorama filmowa; 16.15 „Na naszej ulicy święto". Przegląd estradowy; 17.00 Program międzynarodowy; 17.30 „Trzynaście krzeseł". Teatr miniatur; 18.30 Dziennik; 19.00 Koncert życzeń; 19.50 Kronika filmowa; 20.00 „Żmija". Film.

## Прапанова Прэзідыум Павятовай рады ў Бельску адносна педліцэя

Прэзідыум Павятовай рады ў Бельску нядаўна выступіў з прапановай у Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі, каб нейкі час утрымаць яшчэ педагагічны ліцэй у Бельску, які ліквідуюць.

У высланым дакуменце гаворыцца, што неабходнасць такая выкліканая тым, што педліцэй у Бельску з'яўляецца адзінай установай адукацыі настаўнікаў, якая рыхтуе да працы ў пачатковых школах з беларускай мовай навучання. Патрэба ўтрымання педліцэя абгрунтоўвае факт, — гаворыцца ў прапанове, — што ў Беластоцкім ваяводстве існуе 31 пачатковая школа з бел. мовай навучання з колькасцю вучняў 2319 і 108 працуючымі тут настаўнікамі, а таксама 141 школа, у якіх працуе 669 настаўнікаў, дзе навучаецца беларускай мовы 9452 вучні. Ужо гэтыя лікі павінны быць пераконваючымі.

(ак)

## Купіла суседка тэлевізар

У вёсках тэлевізары ўсё яшчэ з'яўляюцца вялікай рэдкасцю. Сем'і, што маюць тэлевізары, не заўсёды шчаслівыя тым, бо штовечар зыходзіцца многа народу — суседак і суседзяў. Жонка злуе паціху, цяжка ўтрымаць парадак у хаце. З хаты зрабілася публічнае кіно.

Найбольш купляюць тэлевізары ў гарадах і мястэчках. За астатнія тры месяцы распрадана ў Беластоцкім ваяводстве каля дзвюх з паловай тысяч тэлевізараў — палова з іх закуплена «на раты». Купля «на раты» штораз меншая з прычыны ўвядзення высокіх плат. Напрыклад, за тэлевізар з 17-цалёвым экранам трэба цяпер заплаціць адразу каля дзвюх тысяч злотых, больш-менш пятую частку яго вартасці.

У мінулым годзе, калі платы былі малыя, распрадана каля дзевяці тысяч тэлевізараў, перад усім, узіму і ўвосень. Тады шмат купляла вёска. У гэтым годзе вёска купляе менш, нават зусім мала. Відаць гэта па канкрэтных даных за месяц сакавік, калі найбольшы «рух» на тэлевізары. І так, у мінулым годзе ў месяцы сакавіку распрадана 982 тэлевізары, цяпер усяго 666 (менш на 316).

Беластоцкія гандлёвыя ўлады звярнуліся да цэнтральных улад з прапановай адмены высокіх плат пры куплі тэлевізараў.

(СЯ)

## Што з святліцай у Гацьках?

У мінулым годзе мы ўспаміналі аб рэальных магчымасцях пабудовы вясковага клуба ў **Гацьках,** Бельскага павета. Сапраўды, фінансавыя магчымасці і энтузіязм жыхараў — ёсць. Няма толькі пачатку пабудовы. Чаму?

А вось як у скарачэнні выглядае справа. На святліцу ў Гацьках запатрабавалі тыповы праект дакументацыі з Варшавы. Зразумела, гэта многа і танней, і хутчэй. У павеце праект дапасавалі да гацькаўскай сялібы і пасля гэтых (не кароткіх усё ж) дапасаванняў праект на святліцу ў Гацьках выслалі на высокую камісію ў Беласток. Тут таксама праект прайшоў усе бюракратычныя чэргі. Урэшце доўгачаканае рашэнне: **праект адкінуць, паколькі няма ў ім дакументацыі на калодзеж і агарожу.**

Бельскія «спецы» ад культурных інвестыцый не маглі сабе дараваць, што не дагледзеліся так простага недахопу. Хутка, вельмі хутка выслалі пісьмо ў Варшаву з просьбай прыслаць дакументацыю на калодзеж і агарожу. У Варшаве таксама хутка залатвілі і даслалі жаданую дакументацыю. І што?

Дакументацыя ізноў у руках ураднікаў. Не зацверджана. На гэты раз не хапае каштарысу.

Людзі дарагія, ці гэта не задоўга?

**А. К.**

## Сельская гаспадарка Беласточчыны

Выйшла нядаўна з друку кніжка пад загалоўкам: „Rolnictwo województwa białostockiego w latach 1960—1965".

Кніжку рэдагаваў даволі шырокі калектыў эканамістаў і статыстыкаў Беласточчыны. Складаецца яна з двух асноўных раздзелаў. У першым праведзена падрабязны статыстычна-эканамічны аналіз развіцця сельскай гаспадаркі і арганізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі ў 1960—1965 гадах. У другой частцы змешчана каля 200 рознага тыпу табліц, выкрэсаў, якія паказваюць з розных бакоў развіццё сельскай гаспадаркі на Беласточчыне. Знайшліся нават такія, даволі слаба звязаныя з развіццём сельскай гаспадаркі, паказальнікі як развіццё бібліятэк, вясковыя кіно, радыё і тэлевізары ў вёсцы і г.д. Няма толькі паказальніка для развіцця сельскай гаспадаркі, асабліва ўсходняга, беларускага раёну Беласточчыны, асноўнага: працэсу ліквідацыі цераспалосіцы. Таксама ў першай, аналітычнай частцы кніжкі праблеме гэтай амаль не прысвячаецца аніякай увагі. А шкада.

# ПЕРШАЯ КНІГА МАЛАДОГА ВУЧОНАГА

У канцы мінулага года паказалася на паліцах кнігарань і ў хуткім часе была распрадана кніга доктара Васіля Белаказовіча «Сувязі Льва Талстога з Польшчай» („Lwa Tołstoja związki z Polską", „Książka i Wiedza", 1966 г.).

Для нас яна прадстаўляе асаблівую вартасць і ўзбуджае вялікае зацікаўленне. Па-першае, таму што яна з'яўляецца фундаментальным даследван-



нем, усебакова паказваючы сувязі выдатнага рускага пісьменніка і мысліцеля Льва Мікалаевіча Талстога з польскай літаратурай і культурай. Па-другое, асоба доктара В. Белаказовіча — сённяшняга выкладчыка Варшаўскага ўніверсітэта — непасрэдна звязана з Беласточчынай.

В. Белаказовіч нарадзіўся і выхаваўся ў Бельску Падляшскім, закончыў Бельскі агульнаадукацыйны ліцэй, затым у якасці польскага дзяржаўнага стыпендыста займаўся ў Горкаўскім і Ленінградскім універсітэтах, дзе адначасова з поспехам закончыў два факультэты: рускай філалогіі і гісторыі. Гэтае шчаслівае спалучэнне вывучання дзвюх сумежных навуковых дысцыплін адной асобай, прытым надзвычай працавітай і з адметным даследчым талентам, ужо ў студэнцкія гады прынесла багаты плён. Іменна тады Васіль Белаказовіч усяцэла прысвяціў сябе даследванню комплекса гісторыка-літаратурных праблем, звязаных з творчым шляхам Л. М. Талстога, са спецыяльнай увагай да адносін пісьменніка да братніх славянскіх народаў і іх культур. У выніку ён прадставіў універсітэцкай экзаменацыйнай камісіі магістэрскую працу, якая, паводле выказаных на публічным экзамене слоў прафесара Ленінградскага ўніверсітэта Г. Бялага (якія меў гонар асабіста пачуць аўтар сённяшняга артыкула), «выходзіць далёка па-за межы магістэрскай працы і з'яўляецца адметным самастойным навуковым даследваннем».

Пасля прыезду ў Польшчу В. Белаказовіч быў адразу пакліканы да выкладчыцкай і навуковай працы на кафедры гісторыі рускай літаратуры Варшаўскага ўніверсітэта і тут разгортвае сваю актыўную публікацыйную дзейнасць, якая была вынікам руплівых, глыбокіх навуковых даследванняў маладога вучонага. На працягу некалькі год паяўляецца ў шэрагу навуковых часопісаў Польшчы і СССР дзесяткі яго артыкулаў і нарысаў пра культурныя і літаратурныя сувязі выдатных прадстаўнікоў польскай літаратуры і культуры XIX стагоддзя з іх вядомымі вялікімі рускімі сучаснікамі. Для нашай «Нівы» В. Белаказовіч піша і змяшчае ў ёй цікавыя артыкулы ў цыкле «Слаўныя людзі Падляшша», артыкулы аб А. Міцкевічу, Л. М. Талстым і яго карэспандэнтах з беларускіх вёсак Беласточчыны і шмат іншых не менш вартасных матэрыялаў.

Кніга «Сувязі Льва Талстога з Польшчай» з'яўляецца пэўным заканамерным этапам навуковай дзейнасці В. Белаказовіча і ўяўляе сабою абагульненне вузкага адрэзку яго абшырных даследчых пошукаў. У яе цэнтры постаць Льва Мікалаевіча Талстога, які, паводле слоў Ул. І. Леніна «З'яўляецца не толькі аўтарам мастацкіх твораў, якія масы вечна будуць цаніць і чытаць, калі скінуўшы ярмо абшарнікаў і капіталістаў, створаць сабе людскія ўмовы жыцця — патрапіў ён са здзіўляючай сілай адлюстраваць настроі шырокіх мас прыгнечаных сучасным ладам, прадставіць іх палажэнне, выразіць іх інстынктоўны пратэст і абурэнне». В. Белаказовіч знаёміць чытача з атмасферай і абставінамі, у якіх Талстой упершыню сустракаецца з палякамі і знаёміцца з польскай праблематыкай, прыводзячы невядомы дагэтуль матэрыял пра сустрэчы, знаёмствы і карэспандэнцыю маладога Талстога з палякамі. Усебакова аналізуе мастацкія творы Талстога з пункту гледжання адносін пісьменніка да польскай праблематыкі. Перад чытачом паўстае поўны вобраз Талстога як чалавека надзвычай чулага на людскую крыўду, чалавека-свабодалюбца, які ўсім сэрцам быў на баку прыгнечанага заборчымі імперыямі Расіі, Германіі і Аўстрыі польскага народа. Відаць гэта асабліва выразна ў яго апавяданні «За што?». Аднак доктар В. Белаказовіч не абмяжоўваецца толькі да аналізу найбольш насычаных польскай праблематыкай твораў Талстога, ён робіць падрабязны аналіз усіх твораў Талстога і амаль у кожным з іх знаходзіць элементы прыхільнасці гэтага пісьменніка да польскага народа і яго культуры. У кнізе д-ра В. Белаказовіча чытач знаходзіць вельмі багаты матэрыял і пра адносіны выдатных прадстаўнікоў тагачаснай польскай культуры і літаратуры да вялікага рускага пісьменніка. Сянкевіч, Прус, Рэймонт, Жаромскі, Серашэўскі, Бадуэн дэ Куртэнэ і шэраг іншых выдатных дзеячоў польскай культуры і літаратуры далі выраз сваім адносінам да творчасці і грамадскай дзейнасці Талстога. Гэтая багатая праблематыка таксама шырока прадстаўлена ў кнізе Белаказовіча.

На заканчэнне хочацца рэкамендаваць нашым чытачам бліжэйшага знаёмства з гэтай змястоўнай і цікавай кнігай, а яе аўтару пажадаць хуткага выдання новых пазіцый, якія будуць вынікам яго новых таксама адкрывальніцкіх навуковых пошукаў.

**Мікалай Гайдук**
Бельск-Падляшскі

---



Інж. Яўгеній Дэмяньчук.

Загаварыліся мы і не заўважылі, як над нашыя галавы над'ехала магутная рама-кран. Пачулі гарачынь. Побач перасунулася, падвешанае на ланцугах, чарговае разагрэтае стальное браўно — «влевэк», як па-знатацку гаворыць інжынер Пятрук.

Напаветраны транспарт — яго каралеўства. Некалькі дзесяткаў самаходных кранаў, а кожны з іх зусім лёгка мог бы падняць шматпавярховы дом.

Пастаронні чалавек у гэтым царстве сталі і буйных механізмаў адчувае сябе, як мурашка сярод сланоў. Але яны, «беластоцкія» металургі, вядуць сябе свабодна і ўпэўнена, як гаспадар на сваім панадворку. Для іх гэта штодзённы хлеб. Не адчуваюць прыніжанасці. Ведаюць сваю вартасць, асновай якой з'яўляюцца іх грунтоўныя прафесіянальныя веды.

Глыбока ўжо закараніліся ў гэтым, новым для іх, асяроддзі. Асабліва Яўгенія Дэмяньчука ведаюць у Гуце як выдатнага грамадскага дзеяча. З'яўляецца ён старшынёй Рабочай рады пракатнага цэха, які дае 60% усёй прадукцыі. Рабочыя Гуты выбралі яго сваім грамадскім заседацелем пры Павятовым судзе сталічнага квартала Жалібуж. Аляксандр Пятрук працуе ў арганізацыі рацыяналізатарскага руху.

Вечарам сустрэліся мы ў кавярні «Сталіца». Аркестр іграў сентыментальныя мелодыі, а мы ўспамінаем супольныя сустрэчы ў клубе Варшаўскага аддзела БГКТ на вуліцы Сенатарскай.

— Вось мы тут зусім ужо спаланізаваліся, — сцвярджае Аляксандр Пятрук. — Аднак гэта толькі павярхоўна. У нутры, у псіхіцы і пачуццях усё ж асталося штосьці сваё, нацыянальнае. Уключаеш радыёпрыёмнік, паплыве знаёмая, «свая» песня і ты цешышся



Інж. Аляксандр Пятрук.

гэтай песняй, а калі сустрэнеш кагосьці ад нас, з Беласточчыны, нават незнаёмага беларуса, у сэрцы неяк стыхійна выяўляюцца пачуцці еднасці і сяброўства. Гэта астанецца назаўсёды, хаця мы ні словам па-беларуску не гаворым.

**В. Рудчык**

НАВІНКІ МЕДЫЦЫНЫ




**Пакуль што гэта эксперыментальная клініка, якая існуе крыху больш як год. Знаходзіцца яна ў падпарадкаванні Дзяржаўнага навукова-даследчага інстытута псіхіятрыі Міністэрства аховы здароўя РСФСР.**

Шызафрэнія — адна з самых важных і цяжкіх праблем псіхіятрыі. Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, амаль кожны двухсоты жыхар зямлі пакутуе гэтай хваробай.

Сярод спецыялістаў няма згоды ў поглядах на прычыну душэўнай хваробы і метады яе лячэння. Многія лічаць яе спадчыннай і невылечнай. Нешта парушаецца ў самым складаным працэсе самааднаўлення арганізма, прадукты няпоўнага распаду бялкоў атручваюць нервовую сістэму, прымушаючы яе няспынна сігналізаваць мозгу аб невядомай небяспецы. Мозг абараняецца ад пастаянных сігналаў трывогі тым, што ўпадае ў паўсонны, гіпнатычны стан. Чалавека праследуюць недарэчныя думкі, ім авалодвае страх.

Людзі, якія страцілі розум, нярэдка адмаўляюцца ад прыёму ежы. Гэта разглядалася як схільнасць хворага скончыць жыццё самагубствам. І такіх кармілі сілком.

А, можа, у адмове ад ежы і праяўляецца ахоўная рэакцыя арганізма? Магчыма, сам арганізм шукае шлях выхаду ядаў, што яго атручваюць?

Думка гэта не новая. Яшчэ лекары старажытнага Егіпта, Індыі, Грэцыі ўжывалі метад лекавага галадання ад многіх хвароб.

Праўда, не ўсе хворыя паддаюцца лячэнню метадам галадання. Ёсць тры катэгорыі. У першай групе хворых галаданне праходзіць у ярка выражаных фазах. На другую катэгорыю галаданне дзейнічае слаба, хоць душэўны стан значна паляпшаецца. Трэцяя група — тыя, у якіх хвароба зайшла вельмі далёка, і яны амаль не рэагуюць на галаданне.

У эксперыментальнай клініцы лечаць галаданнем многія хваробы.

У аддзяленні прафесара Нікалаева — 66 хворых. Сярод іх — людзі, якія пакутуюць шызафрэніяй, маніякальнымі і інфекцыйнымі псіхозамі, некаторымі іншымі псіхічнымі захворваннямі, і тэрапеўтычныя хворыя, што пакутуюць бранхіяльнай астмай, язвай страўніка, гіпертаніяй, поліартрытам, стэнакардыяй, пачатковым атэрасклерозам. Сярод хворых — ніводнага знясіленага твару. Яны гуляюць, чытаюць, займаюцца фізічнай працай.

Мы разгаварыліся з некаторымі з іх.

Што ж адбываецца ў арганізме чалавека пры поўным галаданні?

Існуе думка, што галадаць цяжка, што голад небяспечны.

— Небяспечна дрэннае, недастатковае харчаванне, — тлумачыць прафесар, — а не само пазбаўленне стравы на пэўны час.

Аказваецца, чалавек худнее, знясільваецца і памірае ад недаядання, а не ад часовага поўнага галадання. Недаяданне вядзе да дыстрафіі, і пры страце арганізмам 40 працэнтаў вагі чалавек прыходзіць на грань смерці. У тканках пачынаюцца незваротныя змены. А лячэбны голад не заходзіць далей страты 20 працэнтаў вагі, якая неўзабаве папаўняецца.

Што адчуваюць людзі, якія вырашылі не браць у рот на працягу 20—30 дзён ні лусты хлеба? (Ваду можна піць у неабмежаванай колькасці).

Вось што расказваюць самі хворыя. Першыя 3—4 дні лячэння (поўнага галадання) есці хочацца, раздражняюць любыя сігналы ежы: від, пах, размовы пра яду, гук пасуды ў сталовай і інш. За суткі чалавек траціць да аднаго кілаграма вагі. Затым апетыт нібы прападае. Пах і від ежы перастаюць прыцягваць увагу.

Арганізм перабудоўвае ўсю сваю работу — пачынае спажываць харчы з уласнага рэзерву. У гэты час у страўнік выдзяляюцца бялкі, якія сам арганізм прызначае для падтрымання жыццядзейнасці ўсіх органаў. Першыя ідуць у расход хворыя тканкі, затым — тлушчавыя запасы. Усё непатрэбнае, шкоднае выносіцца з арганізма як шлак: разыходзяцца тромбы, пухліны, рубцуюцца язвы...

Гэта ў тэрапеўтычных хворых. А што адбываецца з хворымі, якія пакутуюць шызафрэніяй? Адна з тэорый тлумачыць гэта захворванне тым, што мозг чалавека можа ў пэўных умовах атручвацца прадуктамі распаду бялка. А паколькі ў працэсе галадання з арганізма выводзяцца ў першую чаргу іменна гэтыя прадукты распаду бялка, у большасці выпадкаў хворыя выздараўліваюць.

Арганізм, прысвоіўшыся да рэжыму поўнага галадання, можа функцыяніраваць без якіх-небудзь шкодных вынікаў да таго часу, пакуль у яго ёсць энергетычныя рэсурсы. Толькі пасля выдаткавання апошніх настае сапраўднае галаданне, якое хутка вядзе да незваротных змен тканак.

У перыяд лячэбнага галадання ўступаюць у дзеянне рэгулятары, якія ахоўваюць ад знясілення жыццёва важныя органы, асабліва нервовую сістэму. Біяхімічныя даследаванні паказваюць пры гэтым паляпшэнне работы печані, сэрца. Змяняецца азотны абмен. Адбываецца агульная рэвізія арганізма. Усё нездаровае выводзіцца з яго, знікаюць прычыны хвароб.

Праз 20—30 дзён лячэння поўным голадам у хворых прападае налёт з языка. Гэта сігнал — далей пакідаць арганізм без ежы нельга, усе ўнутраныя запасы яго скончыліся. Хворыя пачынаюць адчуваць у літаральным сэнсе слова воўчы апетыт. Настае другая фаза лячэння — 20—30 дзён дыэтычнага харчавання.

Як і ўсякае сур'ёзнае лячэнне, лячэнне голадам патрабуе строгага ўрачэбнага нагляду.

Доследы паказваюць шырокія тэрапеўтычныя магчымасці выкарыстання галадання з лячэбнай мэтай, асабліва пры захворваннях, звязаных з парушэннем абмену рэчываў (у прыватнасці тлушчавага абмену), многіх сардэчна-сасудзістых, скурных і некаторых алергічных захворванняў (бранхіяльная астма, экзема і інш.), хранічнага алкагалізму і іншых хвароб.

У эксперыментальнай клініцы, якой кіруе прафесар Ю. Нікалаеў, дзесяткі людзей вылечыліся ад сваіх хвароб.

Але паток хворых, якія прыязджаюць да прафесара Ю. Нікалаева, вельмі вялікі. Тыя, каму неабходна неадкладная дапамога, вымушаны чакаць — у клініцы толькі 66 бальнічных месц.

**Г. Бакшэева**

## ТЭЛЕВІЗАР У АЎТОБУСЕ

**Вянгерскія аўтамабілебудаўнікі рыхтуюць да выпуску міжнародныя аўтобусы, забяспечаныя тэлевізарамі. Тэлевізар з вялікім экранам будзе ўстаноўлены на задняй сценцы кабіны вадзіцеля аўтобуса. Тэлевізійныя перадачы будуць ажыццяўляцца пры дапамозе спецыяльнай антэны, якая, незалежна ад руху аўтобуса, аўтаматычна арыентуецца на бліжэйшую, выбраную вадзіцелем тэлевізійную станцыю. У такім аўтобусе пасажырам не давядзецца сумаваць.**

Нацыянальныя справы

## МОВЫ БССР

Сорак год таму назад, 11 красавіка 1927 года адбыўся VIII Усебеларускі з'езд Саветаў, які прыняў новую Канстытуцыю Беларускай ССР. Звернута ў ёй асаблівую ўвагу на раўнапраўе грамадзян розных нацыянальнасцей, пражываючых на Беларусі. У аколіцах, дзе перавага рускага або яўрэйскага, або польскага насельніцтва, адміністрацыя працавала на мове пераважаючай нацыянальнасці. Тое ж самае датычыла школ і іншых культурных ды грамадскіх і палітычных устаноў у гэтых аколіцах (раёнах). Беларуская мова аб'яўлялася толькі як — «пераважаючая для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі» Беларусі. Аб'яўлена раўнапраўнымі рускую, польскую і яўрэйскую мовы з беларускай мовай. Гэтым нацыянальным меншасцям Беларусі прызнана — «права свабоднага карыстання роднай мовай на з'ездах, у судзе, кіраванні і грамадскім жыцці». Усе важнейшыя акты публікаваліся і рэалізаваліся не толькі на беларускай мове, але таксама на рускай, польскай і яўрэйскай.

Новая Канстытуцыя БССР, ухваленая праз дзесяць год пасля, у 1937 годзе, сцвярджала кансалідацыю ўсіх нацыянальнасцей Беларусі, якія ў выніку натуральнай асіміляцыі прынялі рускую і беларускую мовы, як свае родныя мовы. Адпала ўжо патрэба ўжывання польскай і яўрэйскай моваў у дзяржаўным і грамадска-культурным жыцці Беларускай Рэспублікі. Такім чынам, чатырохмоўная дагэтуль Беларусь стала двухмоўнай.

С.Я.

Тэхніка

## ДАСЛЕДВАННЕ МАРСКОГА ДНА

Французы пабудавалі падводную лодку незвычайнага прызначэння. Яна абсталявана спецыяльнымі прыладамі для правядзення археалагічных бурэнняў на дне мора, нават на вялікіх глыбінях. Справа ў тым, што паводле меркаванняў геолагаў, дно мораў і акіянаў не менш багатае каштоўнымі залежамі розных металаў і нафты ад нашай зямлі. Французская даследчая лодка адправілася ўжо ў плаванне.

(а-вр)






**Савецкім ваенным разведчыкам, дзейнічаючым у гады вайны на тэрыторыі часова акупаванай гітлераўцамі, — прысвячаецца.**

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Старшыня імперскага народнага суда раз-пораз зрываўся на крык. Ён не мог больш слухаць паказанняў абвінавачанага. Ён перабіваў яго, грукаў кулаком па стале і адчуваў, як у яго ад гневу халадзеюць ногі.

— Вы нават не свіння! — крычаў ён. — Вы гібрыд асла і свінні! Адказвайце зразумела: якімі матывамі вы кіраваліся, перадаючы ім звесткі дзяржаўнай важнасці?!

— Я кіраваўся толькі адным матывам — любоўю да радзімы, — адказаў абвінавачаны.

— Нахабнік! Вы не маеце права гаварыць аб любві да радзімы! У вас няма радзімы!

— Я вельмі люблю сваю радзіму...

— Якой жа любоўю вы яе любіце?! Вы яе любіце, як гомасексуаліст! Ну?! Каму вы перадалі гэтыя дадзеныя? Адказвайце!

— Тых, каму я перадаў звесткі, вам не дасягнуць...

— Вы не проста гібрыд асла і свінні. Вы яшчэ і дурань! У гарах Баварыі ўжо створана звышмагутная зброя адплаты, якая знішчыць ворагаў рэйха!

— Не цешце сябе ілюзіямі. Цяпер красавік сорак пятага года, а не чэрвень сорак першага, пане старшыня...

— Вы здаецё сабе справу, чым гэта вам пагражае?

— Мне ўжо больш нічога не пагражае. Я сплю спакойна. Не спіце вы.

— Адвядзіце гэтага паганца! Адвядзіце яго! Я не жадаю бачыць гэты паскудны твар!

Гэтая судовая сцэна, якая адбылася 2 красавіка 1945 года, была адной з развязак гісторыі, якая пачалася год назад...

* ✲ *

Нарада ў палявым штабе Гітлера 12 мая 1944 года. Пытанне аб лёсе вялікіх цэнтраў славянскай культуры: Кракаве, Празе, Браціславе, Варшаве. Ніжэй вытрымкі з запісу гутаркі па гэтаму пытанню.

«ГІМЛЕР. Адной з нашых сур'ёзных памылак — я ўпэўнены ў гэтым — былі крайне ліберальныя адносіны да славян. Найлепшым вырашэннем славянскага пытання было б калькаванне, крыху, праўда, папраўленае, яўрэйскага пытання. На жаль, мае доказы не былі ўзяты пад увагу, перамог пункт гледжання Разенберга.

КАЛЬТЭНБРУНЕР. Я глыбока перакананы, што добрую прапанову ніколі не позна ажыццявіць.

ГІМЛЕР. Дарагі Кальтэнбрунер, добрымі намерамі выслажана дарога ў пекла. Хоць, да рэчы, я згодны з вамі. Аднак армія не згодзіцца на неадкладнае знішчэнне ўсіх падрыхтаваных вамі па праекту цэнтраў. Армія не можа ваяваць у пустыні.

КАЛЬТЭНБРУНЕР. Значыць, мне трэба атрымаць прынцыпіяльную згоду арміі на акцыю па знішчэнню гэтых цэнтраў?

ГІМЛЕР. Так, абавязкова, а то яны ў генштабе паднімуць віск. Навошта нам лішняя склока? Мы ўсе смяртэльна стаміліся ад склок. Да пабачэння, сябры...»

* ✲ *

«Як мне стала вядома, Кальтэнбрунер ужо дагаварыўся з Йодлем аб сумеснай (гестапа, СС, СД і армія) акцыі па знішчэнню найбольшых цэнтраў славянскай культуры. Усе далейшыя рашэнні па гэтаму пытанню пастараюся перадаць у Берне. Падрабязнасці, яўкі і пароль абгаварыце праз сувязь. Максім Ісаеў. Берлін, 19 мая 1944 года».

Гэтае паведамленне прыйшло са Швейцарыі ў Маскву 21 мая 1944 года. У той жа дзень яно было перададзена ўсім камандуючым франтоў фельд'егерскай сувяззю.

А праз сем дзён у разведаддзеле штаба фронта былі падрыхтаваны дакументы такога зместу: «Разведгрупа ў складзе трох асоб — кіраўнік «Віхор», намеснік па разведрабоце «Коля» і радыст — шыфравальшчык «Аня», адкамандзіраваныя Генеральным Штабам РККА для выканання спецыяльнага задання, прайшлі падрыхтоўчую работу па пытаннях, звязаных з пашпартным рэжымам генерал-губернатара і асобна Кракава, удакладнены легенды, шыфры, час і месца радыёсувязі.

Заданні групы — выяўленне спосабаў, часу, а таксама асоб, адказных за знішчэнне Кракава.

Спосабы выканання абмеркаваны з кіраўніком цэнтра па выкананню спецыяльнага задання палкоўнікам «Барадзіным».

Работа: пасля выкідкі і прызямлення — збор. Пераморгванне ліхтарыкамі. Цэнтрам збору з'яўляецца Аня. Калі ў каго кантузія або рана, трэба пераморгвацца часцей, з інтэрвалам праз адну мінуту, а не праз тры, як гэта ўстаноўлена. Радыстка — белы колер, кіраўнік — чырвоны, намеснік — зялёны.

Адразу пасля прызямлення закопваюць парашуты і пачынаюць ісці на поўнач — роўна тры кіламетры. Тут прывал, пераапранаюцца і наладжваюць сувязь з «Барадзіным». Пасля гэтага рацыю закапаць, двое астаюцца ў лесе, каля рацыі, а намеснік па разведцы накіроўваецца ў вёску Рыбна. Там ён павінен высветліць стан нямецкіх патрулёў. У выпадку, калі ў вёсцы няма войск і патрулёў, Віхор ідзе ў горад Злобнуў, на вуліцу Грушову, у дом 107, да Сігізмунда Палека і перадае яму прывітанне ад яго сына Ігнацыя, палкоўніка Войска Польскага. Сігізмунд Палек выводзіць Віхра праз сваіх людзей на сувязь з шыфравальшчыкам «Муха». Віхор падначальвае сабе «Муху».

У выпадку, калі па нейкіх прычынах група не сабралася ўся разам пасля прызямлення або дом Палека заняты немцамі, месцам сустрэчы становіцца касцёл у вёсцы Рыбна: кожны дзень з дваццатага па дваццаць пяты, з дзесяці да адзінаццаці раніцы. Да кіраўніка падыдзе Муха — малады чалавек у патрэпанай нямецкай форме без пагонаў. Віхор павінен быць адзеты ў сіні касцюм, шапка ў правай руцэ, у левай — белая хустачка, якой ён будзе выціраць лоб справа налева хуткім рухам. Пароль: «Выбачайце, калі

# ТРЫБУНА чытачоў

## МАЯ ВЁСКА

Збуч — адна з многіх закінутых вёсак Беласточчыны. Распаложана яна непадалёку Белавежскай пушчы і горада Гайнаўкі, да якога 8 кіламетраў. Налічвае каля 80 гаспадароў. Людзі пераважна займаюцца гаспадаркай, некаторыя з іх працуюць у горадзе. У час II сусветнай вайны вёска была спалена, засталося толькі некалькі дамоў. Людзі вярнуліся і пачалі будавацца. Цяпер вёска змянілася. Многа ўжо будынкаў мураваных. Пачаткова была зроблена электрыфікацыя. Потым пабудавана школу, краму. Нядаўна аддадзена была ў карыстанне новая малачарня. Гаспадары плацілі па 100 зл., і цяпер на вуліцы ёсць святло. За свае грошы купілі таксама тэлевізар. У маёй вёсцы існуе многа арганізацый: СВМ, ЛьЗС, ЛОК. Гэтыя арганізацыі актыўна ўдзельнічаюць у розных працах і жыцці вёскі. Сяляне купілі сабе многа машын. Ёсць 3 трактары і іншыя машыны, якія многа памагаюць у працы. І так, развіваецца механізацыя працы, культура. Праз вёску праходзіць шаша, а непадалёку — чыгунка. Добра таксама аўтобусная сувязь.

Прыгожа вёска выглядае вясною. Ёсць многа зелені, дрэў, садоў. Непадалёку раскідаецца невялікі лясок «Грабняк», у якім арганізуюцца «маёўкі» і адбываюцца фестыны. У ім многа заўсёды грыбоў. Паміж лесам а вёскай стаяць таямнічыя «аколы», так іх называюць людзі. Гэта вялікія насыпы з зямлі, падобныя да вялікага кола, дыяметрам у 100 метраў. Гавораць людзі, што калісьці была тут крэпасць. А можа варта гэта даследваць больш дакладна. Вёска мая будуецца, змяняецца і ўваходзіць у новую эпоху жыцця, лепшага і прыгажэйшага.

**Васіль Раманюк**
Збуч

## СПУЛДЗЕЛЬНЯ П'ЯНІЦ

У Нараўцы існуе спулдзельня калеснікоў, якую перанеслі з вёскі Міклашэва і Забалотчыны. І так, наогул здаецца, што нічога няма цікавага ў тых людзей, якія там працуюць. Але калі заглянуць у іх сямейнае жыццё, дык там цэлая трагедыя. Гэтыя мужчыны да таго распіліся, што ў тыдні, калі адзін ці два дні ёсць без водкі, то гэта ўжо добра. Бываюць і такія выпадкі, што да хаты некаторыя не могуць дайсці, дык начуюць на трэсках у спулдзельні. Калі ўжо няма святла і габляркі не працуюць, тады ўжо ёсць аказія папіць. А калі ўжо рабочыя спулдзельні маюць грошы, тады купляюць водку ў краме, а калі не маюць — тады забяспечваюць іх у водку тры цёты з Нараўкі, а менавіта: Янцэвічка, Лісоўская і Юрэвічка. Пасля зарплаты рабочыя з імі разлічваюцца. І ўспомненыя цёты маюць з гэтага вялікую карысць. Але церпяць на гэтым жонкі і дзеці п'яніц. Не кожная жонка ведае, колькі яе муж заробіць у месяц. У канцылярыі спулдзельні таксама не могуць даведацца. А гэта таму, што і сам начальнік падтрымлівае з імі кампанію. Гэта спулдзельня носіць назву «Коладзейская», але куды лепш было б яе назваць: «Спулдзельня п'яніц». Гэтая назва лепш да яе падыходзіла б.

Чытач з Нараўкі

П.С. Дарагая «Ніва»! Прашу цябе ад імя жонак гэтых п'яніц, выдрукуй гэта ў «Ніве». Можа гэтыя п'яніцы нарэшце адумаюцца. Ёсць там такія выпадкі, што па некалькі тыдняў мужы не гавораць з жонкамі. І ўсё праз гэтую водку.

## У АДРАС ГАЙНАЎСКАЙ МАЛАЧАРНІ

У Скупаве была арганізавана злеўня малака акруговай малачарняй у Міхалове. Два гады заязджаў трактар з прычэпай і забіраў малако. Прадстаўнікі малачарні прыязджалі ў вёску і нагаварвалі сялян будаваць сіласы, садзіць бручку і буракі, сеяць кукурузу і іншыя кармавыя культуры. Агітавалі тады за пабольшанне колькасці дойных кароў, за іх рацыянальны корм. Гаспадары Скупава адклікнуліся на гэтыя заклікі, пабудавалі сіласныя ямы, пабольшылі пагалоўе кароў, а гэта значыць і колькасць малака. Праз нейкі час пабудавалі вялікую малачарню ў Гайнаўцы, якая некалькі разоў бліжэй знаходзіцца ад Міхалова. І вось кіраўніцтва гайнаўскай акруговай малачарні ў Скупаве ліквідавала злеўню малака. Чаму? А таму, што ім не аплочваецца заязджаць у Скупава па малако. Яны кажуць, каб жыхары Скупава вазілі да найбліжэйшага пункту скупу малака ў іншых вёсках. А гэтым найбліжэйшым пунктам з'яўляецца Гарадзіск, да якога 5 км.

Не было б такой крыўды, каб наша вёска не знаходзілася пры шашы, каб малачарскаму грузавіку не было па дарозе. Гэта ж і 15-ці мінут не забірае часу, каб павярнуць самаход у вёску і забраць малако. Ды дарога тут добрая. Сяляне нават кажуць, што сіласы будавалі, навошта трымаем каровы і навошта знайшліся ў гайнаўскай малачарні бюракраты, якіх зусім не цікавяць хвалюючыя справы вёскі.

**В. Янцэвіч**
Скупава




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву я на вёсцы і хаджу ў восьмы клас пачатковай школы. Хачу, каб ты мяне паінфармавала і параіла, ці можна запісацца ў хор пры БГКТ у Беластоку або ў «Лявоніху».

Калі складаць прашэнні і ці ёсць экзамены?

Прашу прыслаць мне адрас і калі можна там ставіцца? Чакаю на хуткі адказ.

Валя
Беластоцкі павет

**Дарагая Валя!**

Хор, які існуе пры БГКТ, гэта аматарскі хор і ніхто там нікому не плаціць. Так што трэба дзе-небудзь працаваць, і калі хто мае схільнасць да спеву, а таксама добры голас і слых, тады можа запісацца ў хор. У тваім выпадку гэта немагчымае і табе абсалютна непатрэбнае. Перад табою яшчэ навука.

Каб уступіць у «Лявоніху», трэба мець сярэднюю музычную адукацыю, а ў выключных выпадках, калі хто мае вельмі добры голас і слых, тады можа быць іншая сярэдняя школа, не абавязкова музычная.

Аднак, каб уступіць у хор ці «Лявоніху», трэба абавязкова жыць у Беластоку. Аб падрабязнасцях прыняцця ў хор ці «Лявоніху» можна звярнуцца пісьмова ці асабіста ў Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11.

**Сэрцайка**

## ПІСЬМАНОСЕЦ АНТОН ЛУКАШЭВІЧ



Антон Лукашэвіч працуе пісьманосцам на пошце ў Боцьках толькі тры гады.

Штодзённа на сваім матацыкле ВФМ аб'язджае ўсе вёскі свайго раёна. Паважаюць яго ўсе жыхары за тое, што заўсёды свежыя часопісы і газеты прывозіць, а таксама рэгулярна, гэта значыць штодзённа дастаўляе ўсю пошту. Антон Лукашэвіч вялікую ўвагу звярнуў на падпіску «Нівы». У 4-тым квартале 1966 г. ён з'яднаў 2 разы больш падпісчыкаў, чым гэта было ў 3-цім квартале. У 1967 годзе колькасць падпісчыкаў таксама значна павялічылася. Антон Лукашэвіч атрымаў ад нашай рэдакцыі ўзнагароду за добрыя вынікі ў падпісцы «Нівы».

Тэкст і фота П. З.
Бельск

## СУПРАЦОЎНІЦТВА З НАСТАЎНІКАМІ

Саюз польскіх гарцэраў у Бельскім павеце налічвае 6485 членаў што становіць 54,5% усёй моладзі школьнага ўзросту. Гарцэрскія каманды, якіх ёсць 223, дзейнічаюць ва ўсіх васьмікласных пачатковых і сярэдніх школах і ў 6 школах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (СПР). Зразумела, што так вялікай арганізацыяй не здолеюць кіраваць толькі штатныя працаўнікі, і дзеля таго вакол каманды гуфца аб'яднаўся шырокі грамадскі актыў, які налічвае 255 гарцэрскіх інструктараў. Дзеля спраўнейшага кіравання цэлы павет падзелены на 8 раёнаў, так званых «асьродкаў». Галоўнай задачай «асьродка», а асабліва камендантa і яго намесніка, з'яўляецца нясенне дапамогі інструктарам, каардынаванне працы ўсіх гарцэрскіх каманд, арганізаванне супольных лекцый, ініцыяванне розных супольных мерапрыемстваў. Гарцэрскімі камандамі беспасрэдна кіруюць інструктары, якімі пераважна з'яўляюцца настаўнікі або вучні сярэдніх школ. Працуюць яны грамадска. Лепшыя з іх, за вялікі ўклад працы, атрымліваюць грашовыя ўзнагароды. І так, напрыклад, каманда гуфца ЗГП у Бельску Падляшскім у 1966 годзе выдала на ўзнагароды 138400 зл і 27 900 на краёвыя і заграгічныя экскурсіі для сваіх інструктараў. Старым звычаем і ў гэтым годзе адбудуцца тры заграгічныя экскурсіі, чатырнаццацідзённыя ў Балгарыю і Румынію, дзевяцідзённую ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку і шаснаццацідзённую ў Савецкі Саюз. Каманда гуфца пакрывае ад 33% да 50% коштаў экскурсіі для сваіх інструктараў. Інструктары — удзячныя камандзе гуфца за тое, што бачыць і дацэньвае іх грамадскую працу і таму стараюцца яны весці яе як найлепш.

(Ф)
Рыбалы

## ЛЕГЕНДА

Малодшыя жыхары Белак не памятаюць, як у мінулым стаяў вялікі дуб за балотам, каля вадапойкі.

Як гаворыць легенда, каля гэтага дуба з усёй аколіцы збіраліся ведзьмы і рыхтавалі знаныя толькі ім чары, якія робяць перашкоды ў выхадзе замуж або каб дзяўчына памерла ў маладых гадах. Чары ведзьмаў былі шкодныя таксама для кароў, якія пераставалі даваць малако.

Гэтага месца баяліся людзі, абміналі яго. Там кожны вечар ведзьмы распальвалі вогнішча і варылі зачараванае зелле, а пасля ўзлазілі на дуб і зараз пасля гэтага паднімаўся вялікі буран, з якім ведзьмы разляталіся ў розныя бакі з той мэтай, каб зрабіць каму-небудзь нешта злое.

Няма ўжо таго дуба. Прапалі таксама ведзьмы. Але легенда такая ў Белках жыве да сёння.

**«Ярош»**
Гайнаўскі павет

# КІНО

**Праграма на 2—7.V.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Teresa Desgueraux” (franc.), 2—3. „Trzy klucze” (jugosł.), 4—5; „Pamiętnik pani Hanki” (polski), 6—7.

**Кляшчэлі**
„Dzwony dla bosych” (czeski), 2—3; „Tomasz oszust” (franc.), 4—5; „Don Gabriel” (polski), 6—7.

**Дубіны**
„Zemsta OAS” (franc.), „Tak” (węgierski), 6—7.

**Нараўка**
„Święta wojna” (polski), „Wystrzał” (polski), 6—7.

**Нарва**
„Śmierć Tarzana” (czeski), „Dziewczyna kłamie” (jugosł.), 3—7.

**Чыжы**
„Szalone wakacje” (jugosł.), „Nigdy nie wrócę” (radz.), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**
„Nieznany” (polski), „Nikt śmiać się nie będzie” (czeski), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Kraksa” (radz.), „Dni grozy i śmiechu” (USA), 3—7.

**Орля**
„O carski tron” (bułgarski), „Siedmiu przysięgłych” (franc.), 3—7.

**Райск**
„Winnetou” (jugosł.), I i II s. 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Poławiacze gąbek” (radz.), „Bokser” (polski), 2—5.

**Міхалова**
„Więźniowie nocy” (argen.), 2—3; „Pod karnawałową maską” (kubański), 4—5; „Bariera” (polski), 6—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Gorsza miłość” (węgierski), 2—3; „Kozacy” (radz.), 4—5; „Cierpkie głogi” (polski), 6—7.

**Шудзялава**
„Gangster i urzędnik” (USA), „Urocza gospodyni” (USA), 3—7.

**Сідра**
„Kiermasz” (NRF), 2—3; „Walizka z milionami (angl.), 4—5; „Nieśmiały w akcji” (radz.), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Pierwszy dzień wolności” (polski), „Grek Zorba” (USA), 3—7.

**Новы Двор**
„Trzy życzenia” (rumuński), „Samson” (polski), 6—7.

**Ліпск**
„Gdzie jest trzeci król” (polski), „Wierność” (radz.), 6—7.

Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.599 Białk M-3

